# ЗАМЕЖЖА

ІТАР-ТАСС * НАРОДНАЯ ГАЗЕТА *

*Пульс дня*

## Без гарантый не здаецца

**Генеральная пракуратура Калумбіі абавязана гарантаваць бяспеку членам сям'і кіраўніка "Медзяльінскага картэля" Пабла Эскабара, калі ён звернецца з такой просьбай.**

Аб гэтым заявіў генеральны пракурор Калумбіі Густава дэ Грэйф, каменціруючы зварот наркабарона да амерыканскіх улад з прапановай забяспечыць бяспеку яго сям'і ў абмен на яго добраахвотную здачу калумбійскім органам правасуддзя, апублікаваны газетай "Нью-Йорк Таймс".

## Час спыніць крывавую бойню ў Анголе

**З прычыны адмовы апазіцыйнай ангольскай групоўкі УНІТА ад удзелу ў мірных перагаворах у Адыс-Абебе міжнароднае супольніцтва павінна прымусіць сілай яе лідэра Жонаса Савімбі спыніць крывавую бойню ў Анголе.**

Аб гэтым заявіў на прэс-канферэнцыі, што адбылася ў штаб-кватэры ААН, пастаянны прадстаўнік Рэспублікі Ангола пры ААН Афонса Ван-Дунем.

## Нацыянальныя праблемы ёсць і ў Канадзе

**У Канадзе на працягу мінулага года зафіксавана 196 інцыдэнтаў антысеміцкага характару — вандалізму сінагог і яўрэйскага жылля, фізічных пагроз або зневажанняў.**

Гэтыя даныя паведамляюцца ў штогадовым дакладзе, які апублікавала яўрэйская арганізацыя Бнай Брыт.

## Бежанцам будзе цяжка

**С 1 красавіка беженцы з-за мяжы, што прыбываюць у ЗША, будуць атрымліваць грашовую дапамогу на працягу пяці, а не васьмі месяцаў, як раней.**

Аб гэтым паведамляецца ў апублікаваным у Вашынгтоне апошнім зборніку афіцыйных урадавых дакументаў "Федэрал Рэджыстэр". У ім указваецца, што адміністрацыя вымушана пайсці на такую меру ў сувязі з недахопам бюджэтных сродкаў.

## Аб міратворчай ролі Расіі

**"Удзел Расіі ў міратворчых аперацыях у краінах былога СССР" — дакумент пад такой назвай прадставіў у ААН на прэс-канферэнцыі намеснік міністра замежных спраў Расійскай Федэрацыі Сяргей Лаўроў.**

Удзел Расіі ў такіх аперацыях абумоўлены перш за ўсё неабходнасцю забеспячэння уласнай бяспекі, а таксама ўсведамленнем асаблівай адказнасці, якую яна разам са сваімі суседзямі нясе за стабільнасць і захаванне правоў чалавека на тэрыторыі былога СССР у адказ на зварот у яе адрас іншых дзяржаў з просьбамі аб аказанні садзейнічання ва ўрэгуляванні канфліктаў, гаворыцца ў дакуменце.

## Пока идут споры о "новом крузейру", старый доллар правит миром

**Андрей КУРГУЗОВ**

Бразильская денежная единица — крузейру — постепенно вытесняется американской валютой. Из-за стремительного роста инфляции, которая достигает 25 процентов в месяц, и быстрого обесценивания денег все больше бразильских фирм и частных лиц предпочитают иметь дело с долларами.

Как отмечает газета "Фолья ди Сан-Паулу", доллары США уже заменили крузейру во многих сферах денежного обращения, хотя использование иностранной валюты для осуществления внутренних расчетов официально запрещено.

На "черном рынке" один доллар равен на сегодняшний день 16 тыс. крузейру. Доллар стал своеобразным индексом, используемым для установления цен и расчетов в торговых операциях. Самым прибыльным бизнесом в прошлом году стала конвертация крузейру в доллары, превзойдя даже такие традиционные способы приложения капитала, как приобретение недвижимости и покупка золота.

Для облегчения расчетов администрация Итамара Франку приняла решение ввести с 1 марта новую денежную единицу — новый крузейру, "убрав" три нуля со старых денег. Однако этот план, не успев даже получить одобрения Национального конгресса, застопорился из-за технических трудностей. Как было объявлено в субботу по окончании специального заседания правительства, реализация плана "новый крузейру" откладывается до апреля.

*Югославский узел: точка зрения*

## Многие албанцы уже не хотят быть "дешевым оружием"

**Здравко ПОПОВИЧ, журналист (Белград)**

Вследствие событий, произошедших в последние недели в южных сербских областях, а также теперешней политической бури в целом, Косово и Метохия в средствах массовой информации всего мира упоминаются как "потенциальный очаг военного пожара". Этому во многом способствует лидер партии албанских сецессионистов Ибрагим Ругова, который безапелляционно заявляет, что мир признает "суверенную республику Косово".

Однако в интервью "Политика—экспресс" политический деятель К.Загори из Приштины констатировал, что растет число албанцев, которые думают иначе. Это члены "Союза албанцев, сербов, черногорцев и других граждан за единую Югославию", которых сейчас более 57 тысяч, из них 72% — албанцы.

Для К.Загори, который входит в президиум этого Союза, очевидно, что сепаратисты до сих пор использовали албанцев в качестве "дешевого оружия", при помощи которого можно выйти из состава Югославии, а в данный момент это козырь для ведения антисербской пропаганды.

По словам К.Загори, неправда об угрозе жизни албанцев в Косове очевидна. Об этом говорят факты: более 950 частных фирм в Косове принадлежат албанцам, они уже считаются самыми богатыми людьми в Сербии и Югославии. Взять хотя бы их великолепные дома, самые богатые автомобили и другие внешние признаки высокого жизненного уровня.

В Албании, к которой Ругова не прочь присоединить Косово и Метохию, жители не могут и мечтать о таком богатстве. Именно поэтому большое число албанцев лишь формально поддерживают идеи партии Руговы — из-за боязни бойкота и других неприятностей.

Каждому здравомыслящему человеку ясно, что нельзя рассматривать как "террор сербской милиции" арест тех албанцев, которые спекулировали оружием и наркотиками. Между прочим, за эти преступления во всем мире наказывают гораздо строже, чем в Сербии.

"Пробуждение моих соотечественников от фальшивых снов близко, и оно в их собственных интересах", — завершает интервью К.Загори.

## США призывают Китай освободить политзаключенных

Недавно китайское правительство выпустило из заключения двух известных политзаключенных. Студенческие лидеры Ванг Дан и Гуо Хайфенг были арестованы в 1989 году за участие в демонстрациях в поддержку демократии. Соединенные Штаты приветствуют этот шаг правительства Китая и призывают освободить всех граждан, арестованных только за то, что они мирно выражали свои политические и религиозные взгляды.

Как отмечается в недавнем заявлении Госдепартамента США о правах человека, сотни, а возможно, тысячи узников совести оставались в заключении в Китае в конце 1992 года. В заявлении отмечается, что правительство Китая до сих пор не смогло представить удовлетворительных объяснений по поводу арестов тысяч людей по всей стране, за деятельность, связанную с демонстрациями в поддержку демократии в 1989 году.

**Материал передан посольством США в Беларуси.**

*Фотокалейдоскоп*

Группа студентов из Стокпортского колледжа в Англии построила рекордную по высоте пирамиду из бокалов для шампанского.

Искрящаяся башня, сложенная из 16215 бокалов, достигла почти девятиметровой высоты. У студентов, помимо свободного от учебы времени, был еще и спонсор — британская компания безалкогольных напитков "Вимто". Поэтому ее президент Джон Николс (на левом снимке) получил почетное право наполнить бокалы — все шестнадцать с лишним тысяч — фирменным напитком.

*Московские новости*

## Быт на уровне пассажира

Более полутора миллионов беженцев уже зарегистрировано в России. Только 15 процентов из них получили постоянную прописку и жилье. Быт же остальных, гонимых страхом под защиту российских властей, похож скорее всего на быт транзитного пассажира.

## Новый счет оборотней

Новый счет милицейских оборотней в российской столице открыли два сержанта, задержанные недавно в центральной части Москвы. Они средь белого дня остановили в малолюдном переулке прохожего, обчистили его карманы и "увели" 11 тысяч рублей, дорогие часы. Чтобы прохожий не сопротивлялся, брызнули из газового баллончика в лицо.

Один "защитник" москвичей работает в органах милиции два с лишним года, а второй — восемнадцать лет и, говорят, имеет не одно поощрение за "образцовую службу".

## Водительские права с цветным фото

**Ежегодно в Москве изымаются тысячи поддельных водительских удостоверений.**

В МВД России утвержден образец нового водительского документа с цветной фотографией. Оно изготовлено из специальной синтетической бумаги. Внутренняя часть удостоверения вместе с цветной фотографией покрывается особой прозрачной пленкой, под которой отдельные надписи способны светиться только в ультрафиолетовых лучах.

Говорят, что изобретенный документ подделать невозможно. Дай-то Бог!

**Леонид ФАДЕЕВ.**

# СПЫТАЙЦЕ ПРОСИТЕ ЮРУ

## Храните деньги в банке. Российском?

***Говорят, Сбербанк России с апреля установил сумасшедшие процентные ставки по вкладам. Может, и Сбербанк Беларуси порадует своих клиентов?***

**Юрий МАСЛОВ.**

*г.Орша.*

Да, правительство России нашло средства для погашения государственного долга вкладчикам. И на радостях тамошний Сбербанк в среднем в 2 раза увеличил процентные ставки. С 1 апреля они будут следующими (в скобках даны процентные ставки, действующие в нашей республике с 1 января с.г.): вклады до востребования — 40 (20) процентов, срочные — до 100 (до 50), целевые вклады на детей — до 120 (50) процентов. Больше того, россияне теперь смогут положить деньги и на срочный депозитный вклад: на 3 месяца — под 100 процентов, на полгода — 110, год — 120 процентов годовых. Как сообщили мне в Сбербанке Беларуси, вопрос об изменении процентных ставок здесь пока не ставился. Да и не стоит равняться на Россию. С таким же успехом можно брать пример с Германии, где вкладчики получают лишь несколько процентов годовых. У нас разные уровни цен, инфляции, прочность бюджета.

## Злева руль і справа руль — ДАІ маўчыць пакуль

***Нядаўна ўрад Расіі паставіў па-за законам легкавыя аўтамабілі з правабаковай рулявой калонкай. А як Беларусь, не збіраецца пераняць прыклад ад суседзяў?***

**Анатоль ФЕДАРЦОЎ.**

*г.Гродна.*

Па-першае, першынство барацьбы з "японкамі" трэба аддаць Украіне. Па-другое, як мне паведамілі ў ДАІ МУС Беларусі, хваляваццa беларускім уладальнікам гэтых машын пакуль што не трэба. Можа, таму, што "правых" аўтамабіляў у нас няшмат — прыкладна з паўтысячы. Але нельга выключаць і больш жорсткага стаўлення супрацоўнікаў службы бяспекі руху. Калі будзе патрэба, то дастаткова загаду міністра ўнутраных спраў, каб паставіць "правыя" аўтамашыны "на прыкол", бо Правілы дарожнага руху забараняюць ім раз"язджаць па беларускіх дарогах.

## У Магілёве па 3 рублі, і танныя, а ў Мінску па 5, але надта дарагія

***З 1 сакавіка падаражаў праезд на пасажырскім транспарце. Але ніяк не ўцямлю, чаму білет на аўтобус ў Мінску каштуе 5 рублёў, а ў Магілёве — усяго 3 рублі?***

**Антон ВАШКЕВІЧ.**

*г.Мінск.*

Усё проста: зараз тарыфы на праезд у пасажырскім транспарце самастойна ўстанаўліваюць аблвыканкамы. Памеры штрафаў таксама. А розныя тарыфы яшчэ і таму, што гэтыя перавозкі надта стратныя для аўтапрадпрыемстваў. Ад банкруцтва выратоўвае выканкамаўская датацыя. Хтосьці кампенсуе болей, хтосьці меней. Я абзваніў некалькі абласцей і для параўнання саставіў табліцу.

| | Кошт адной паездкі | Памер штрафу |
|---|---|---|
| **Магілёўская вобласць** | | |
| горад | 3 руб. | 100 руб. |
| прыгарад | 1,5 руб. за 1 км | 200 руб. |
| міжгарад | 2 руб. за 1 км | 300 руб. |
| **Гродзенская вобласць** | | |
| горад | 5 руб. | 260 руб. |
| прыгарад | 2 руб. за 1 км | 300 руб. |
| міжгарад | 2 руб. за 1 км | 600 руб. |
| **Мінск** | | |
| горад | 5 руб. | 25 руб. |

(Прапанова на сесію гарсавета: 10 працэнтаў мінімальнай зарплаты — пры добраахвотнай аплаце і 300 працэнтаў мінімальнай зарплаты — пры прымусовай).

Дадам, што зараз, напрыклад, мінскі праязны білет ужо не сапраўдны ў іншых абласцях Беларусі. І наадварот.

## Нафта ёсць. Працы няма?

***Я — буравы майстар. Здабываў нафту і ў Расіі, і ў Азербайджане. Але па сямейных абставінах вымушаны быў спыніць качавы вобраз жыцця. Зараз інфляцыя вымушае шукаць былую работу з добрымі заробкамі. Але як грамадзяніну Беларусі паехаць, напрыклад, у замежную дзяржаву — Расію. Хто дапаможа?***

**Міхаіл ЗВОНАЎ.**

*г.Мінск.*

Я патурбаваў намесніка дырэктара Рэспубліканскага цэнтра занятасці Мікалая Коханава. Паводле яго слоў, літаральна некалькі дзён назад да іх прыязджалі расійскія эксперты з прапановай працаўладкавання беларускіх грамадзян на расійскіх месцанараджэннях нафты, газу, дыяментаў. Прычым было б здорава (для Расіі), калі б жадаючыя беларусы ўвогуле засталіся там жыць, бо Расія зараз пакутуе ад недахопу працоўнай сілы. Рыхтуецца праект міждзяржаўнага пагаднення. Але нецярпліўцы-вахтавікі ўжо не першы год выязджаюць на заробкі. Маўляў, пакуль дзяржавы дамовяцца... Але не дай Божа каму-небудзь атрымаць за мяжой траўму. Хто будзе аплачваць непрацаздольнасць або пенсію па інваліднасці? Вось гэтыя сацыяльныя гарантыі і павінны быць зацверджаны ў пагадненні. Ёсць і ў Беларусі нафта, патрэбны і рабочыя рукі. Тэлефануйце ў Рэчыцкі цэнтр занятасці — (8-02340) 2-32-11. Можа, пашанцуе.

## Нарадзіўся ў Саюзе. І памерці там хачу

***"Народная газета" пісала, што нядаўна дэлегацыя беларускіх вайскоўцаў на чале з генерал-лейтэнантам Д.А.Івановым удзельнічала ў нелегальным сходзе расійскіх афіцэраў, жадаючых адрадзіць былы Савецкі Саюз. А хто такі гэты Іваноў, дзе працуе і хто яму даў правы пляміць камуністычным брудам гонар беларускіх афіцэраў?***

**Анатоль В-ВІЧ.**

*г.Мінск.*

Па маёй просьбе ўпраўленне кадраў штаба Мінабароны Беларусі адшукала звесткі аб "невядомым беларускім" генерале. Знайшлі аднаго — Дзмітрыя Аляксеевіча Іванова — былога камандзіра 11-га корпуса ПВА (падпарадкаванне Маскве). Рускі, нарадзіўся ў 1929 годзе ў Расіі. Звольнены ў адстаўку ў 1989 годзе, а ў мінулым годзе гэты корпус быў расфарміраваны. Зараз Іваноў узначальвае Саюз афіцэраў (у адстаўцы) Беларусі.

## Кто есть где

Список страховых компаний, зарегистрированных в Госстрахнадзоре Республики Беларусь и получивших лицензии на право ведения страховой деятельности

**"Белгосстрах"**

220048, г.Минск, ул.Коллекторная, 10. Тел. 20-62-97.

**"Кредо"**

223610, г.Слуцк, ул.Копыльская, 2. Тел. (8-295) 2-43-36.

**"Аралия"**

220104, г.Минск, ул.Жудро, 40. Тел. 55-39-82.

**"Омета-ЛТД"**

220010, г.Минск, ул.К.Маркса, 5. Тел. 27-19-45.

**"Лель"**

220027, г.Минск, пр-т Ф.Скорины, 67. Тел. 64-70-61.

(Продолжение в следующем выпуске.)

**Рубрику ведет Юрий НОЯРОВИЧ.**

*Пасля падзеі*

## Калі мы не будзем сур'ёзна ставіцца да праблем нацыянальных меншасцей, то ніколі свабодную дэмакратычную дзяржаву не пабудуем!

### Такі асноўны вывад міжнароднага форума "Нацыі, межы, лёсы", які прайшоў 26—28 лютага ў Віцебску

МІЖНАРОДНЫ ФОРУМ "НАЦЫІ · МЕЖЫ · ЛЁСЫ" ВІЦЕБСК · 1993

**Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ**

Больш пяцідзесяці вучоных з Літвы, Латвіі, Расіі, Беларусі, Украіны, прадстаўнікі пасольстваў краін-суседзяў, нацыянальна-культурных абшчын Беларусі, дзяржаўных структур і парламента рэспублікі сабраліся ў Віцебску на навуковую канферэнцыю. У сваім дакладзе старшыня Камісіі па нацыянальнай палітыцы і пытаннях Садружнасці Незалежных Дзяржаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прафесар Міхаіл Слямнёў акрэсліў сутнасць ранейшай і сённяшняй дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі:

— Доўгія гады нацыянальная палітыка фарміравалася ў ЦК КПСС, і сутнасць яе заключалася ў знішчэнні этнічных адрозненняў паміж людзьмі, у зліцці ўсіх нацый і народнасцей у адно аморфнае надэтнічнае цэлае пад назвай "савецкі народ". Такая палітыка была абавязковай для ўсіх рэспублік, але яе практычная рэалізацыя на месцах адбывалася ўсё ж па-рознаму. У Беларусі гэтая палітыка дасягнула найбольшых вынікаў. Народ, імем якога названа рэспубліка, з пункту гледжання валодання роднай мовай, далучэння да ўласнай культуры, традыцый і абрадаў, наяўнасці ўласнай гістарычнай памяці аказаўся фактычна на мяжы вымірання. Таму відавочна, што сёння галоўным накірункам нацыянальнай палітыкі маладой суверэннай дзяржавы Рэспублікі Беларусь павінна быць непасрэдна беларускае нацыянальнае адраджэнне ва ўсіх яго сферах — палітычнай, сацыяльнай, духоўна-маральнай. Разам з тым нельга забываць, што Беларусь — рэспубліка многанацыянальная, што побач з васьмю мільёнамі беларусаў жывуць мільён трыста тысяч рускіх, амаль чатырыста тысяч палякаў, сто тысяч украінцаў, сто тысяч яўрэяў і яшчэ мноства прадстаўнікоў больш як ста нацыянальнасцей. І падчас правядзення нацыянальнай палітыкі, аб якой я ўжо гаварыў, іх культура, мова, нацыянальныя традыцыі і звычаі, іх уласная гістарычная памяць, па сутнасці, аказаліся ў такім жа цяжкім, а часта яшчэ і горшым стане, чым беларусаў. Вось чаму ўсе нашы малыя нацыянальныя групы маюць законнае права ўдзельнічаць і ўжо ўдзельнічаюць у працэсе ўласнага нацыянальнага адраджэння. І рэспубліка, якая стала на шлях стварэння прававой дэмакратычнай дзяржавы, абавязана ў рамках сваіх магчымасцей ствараць для гэтага не толькі юрыдычныя, але і матэрыяльныя прадпасылкі. Не будзе гэтага — нам не пазбегнуць калі не ўзнікнення міжнацыянальных канфліктаў, то з'яўлення міжнацыянальнай напружанасці. Такім чынам, сутнасць цяперашняй нацыянальнай палітыкі суверэннай Беларусі заключаецца ў тым, каб забяспечыць свабоднае развіццё ўсіх нацыянальных супольнасцей, вялікіх і малых.

Гэта — пункт гледжання дзяржаўны. На канферэнцыі па многіх пытаннях гучалі і іншыя меркаванні, часта нават супрацьлеглыя, але для таго і сабраліся вучоныя, палітыкі, прадстаўнікі дзяржаўнай улады, каб разабрацца, як жа складваюцца ў рэспубліцы ўзаемаадносіны паміж рознымі нацыянальнымі групамі, выпрацаваць канкрэтныя рэкамендацыі, канкрэтныя шляхі хоць бы для частковага аслаблення вастрыні гэтых праблем.

